| НАЗВА ПЫТАНЬНЯЎ | Месяц пастаноўкі | Хто падрыхтоўвае | Дакладчык. | Хто выклікаецца | Хто вывучаецца |
|---|---|---|---|---|---|
| 21) Аб ходзе падрыхтоўкі кадраў для саўгасаў сыстэмы „Сьвінавод" | Сьнежань | Саўг. аб'ядн Сэктар кадраў | Сэкт. кадраў | К-ра „Сьвін" | — |
| 22) Аб працы школ сельгасвучу . | „ | „ | Сэкт. Кадраў | Саўг. аб'ядн. | |
| 23) Аб арганізацыі у БССР тэхнікумаў-саўгасаў у 1931 годзе . . | „ | НКЗем Сэкт. кадраў Саўг. аб'яднан. | Сэкт. Кадраў. | НКАсьветы. НКзем Саўг. аб'ядн. | |
| 24) Аб палітыка-выхаваўчай рабоце сярод студэнцтва с.—г. навуч. установ, . . . . . . . | „ | ЦБПС Сэкт. кадр. | Сэктар Кадраў ЦБ Пралетстуду | ЦБ Пралет. | |
| 25) Аб ходзе перагляду навучальных плянаў і праграм ў с.—г. навуч. установах пад кутом погляду увязкі іх з запатрабаваньнямі с.—гаспадаркі . . . | „ | НКАсьветы ЦБ Пралетстуду НКЗем Сэктар Кадраў | Сэктар кадраў | НКАсьветы. НКзем ЦБ ПС | |
| 26) Аб разгортваньні сеткі сярэеняй і ніжэйшай агульна-адукацыйнай школы у саўгасах БССР | „ | НКАсьаеты Сэкт. кадр. | НКАсьветы | НКАсьветы. | |

# ПАСТАНОВА

## Прэзыдыуму БРК саюзу аб арганізацыі райкомаў н/саюзу.

У сувязі з ліквідацыяй акруг і на аснове дырэктыў ЦК саюзу і ЦСПСБ, Прэзыдыум БРК пастанаўляе:

1) Райкомы саюзу арганізаваць ва ўсіх адміністрацыйных цэнтрах цяперашніх граніц, пры наліччы ў раёне ня менш 250 членаў н/саюзу, якія плоцяць членскія ўзносы і пры наліччы ў іх ня менш 4-5 нізовых ячэяк. Месца знаходжэньня райкомаў, як правіла, павінна быць у адміністрацыйных цэнтрах, дзе знаходзяцца Райвыканкомы.

2) У тых-жа адміністрацыйных раёнах, дзе налічваецца менш 250 членаў саюзу і 4-5 нізавых ячэяк, Райкомы не арганізоўваюцца, а прафсетка застаецца па стараму, г. зн. Райпрафкомы ці Райсельрабачкомы і ўсе прафячэйкі данага раёну абслугоўваюцца непасрэдна праз БРК.

3) Аслабанёны платны старшыня Райкому ўводзізіцца ў тых раёнах, дзе налічваецца ня менш 450-500 членаў саюзу, якія плацяць членскія ўзносы, і пры наліччы ў раёне ня менш 6-8 нізавых ячэяк нашага саюзу.

4) У тых-жа раёнах, дзе маецца 450-500 членаў саюзу і менш 6-8 нізавых прафячэяк, старшыня райкому павінен быць неаслабанёны, а работу старшыні райкому выконвае па сумяшчэньню (старшыня рабачкому, МК і г. д.).

5) Пры райкоме саюзу абавязкова арганізоўваецца бюро сэкцый сельскагаспадарчых і лясных спэцыялістых, пры наліччы ня менш 15 спэцыялістых у даным адміністрацыйным раёне.

6) Пры ўноў арганізаваных леспрамгасах (у сувязі з рэарганізацыяй лесной гаспадаркі) дапусьціць арганізацыю райкомаў леспрамгасаў прыналіччы ў даным леспрамгасе ня менш 300-350 членаў саюзу і ня менш 4-5 вучастковых рабчкомаў леспрамгасу. Райкомы леспрамгасаў падпарадкуюцца непасрэдна БРК саюзу. У тых-жа леспрамгасах, дзе налічваецца менш 300-350 членаў саюзу, райкомы леспрамгасаў не ствараюцца, а на агульных падставах арганізоўваюцца рабачкомы леспрамгасаў і лесавучасткаў з абавязкавым падпарадкаваньнем іх райкомам саюзу.

7) Як правіла, ў адміністрацыйных раёных цэнтрах, дзе будуць арганізаваны новыя райкомы, ня могуць быць дапушчаны іншыя супроцілеглыя раённыя арганізацыі, як прафкомы і райсельрабачкомы, пагэтаму пасьля выбараў райкомаў у тыднёвы тэрмін павінны быць распушчаны райпрафкомы і райсельрабачкомы, пры чым спэцыяльныя канфэрэнцыі для роспуску гэтакіх ня склікаюцца, а ліквідацыя іх афармляецца на праводзімых пленумах райпрафкомаў і райсельрабачкомаў.

8) У калгасах з адпаведным наліччы членаў саюзу—батракоў і другіх, абавязкова да пачатку арганізацыі райкомаў саюзу павінна быць адмоўлена і поўнасьцю захавана сетка прафкомаў калгасаў і прафупаўнаважаных. Таксама ў сельскіх пунктах, у мясцох згуртаваньня батрацтва і пастушаства арганізоўваюцца сельрабачкомы і прафупаўнаважаныя. Уся гэта сетка прафкомаў, сельрабачкомаў і іх прафупаўнаважаных павінна быць ня платнай ці па сумяшчэньню і падпарадкуецца райкому саюзу.

9) Усіх членаў саюзу як адміністрацыйнага цэнтру, і ў радыусе 5-7 вёрст ад яго, павінен абслугоўваць непасрэдна райком саюзу.

10) Як правіла, ў райкоме тэхнічны платны апарат не ствараецца, а дапушчаецца ледзь як выключэньне ўвядзеньне платнага тэхнічнага работніка ў найбольш буйных раёнах, дзе налічваецца ня менш 1000 чалавек членаў, якія плацяць членскія ўзносы.

11) Райкомы саюзу ніякай фінансавай і статыстычнай работы не вядуць. Усе грашовыя паступлены здаюцца непасрэдна ў БРК саюзу. Ўтрыманьне райкомаў і ўсе зьвязаныя з імі расходы вытвараюцца па каштарысах райкомаў, але з абавязковым зацьверджаньнем іх БРК саюзу.

12) Райкомы пісьмовых дырэктыў і абежнікаў не павінны даваць па сваіх нізавых прафячэйках. Грунтоўная-ж увага райкомаў павінна быць зьвернута на жывое кіраўніцтва і інструктаваньне ячэяк. Пагэтаму вакол РК павінна быць шырока разгорнута добраахвотніцтва з лепшых ударнікаў—членаў саюзу і накіравана на сыстэматычную дапамогу ў працы нізавых ячэяк. Райкомы павінны практыкаваць вылучэньне добраахвотніцкіх—ударных брыгад для вывучэньня і абсьледваньня асобных галін становішча работы прафячэяк і прымаць безадкладныя меры да ліквідацыі заўважаных прарываў, адначасова пераносячы лепшы вопыт работы ў іншыя рабачкомы і мясцкомы. Усе члены райкомаў павінны быць прымацаваны для практычнай дапамогі, да адпаведных нізавых ячэяк і нясьці адказнасьць за правільную пастаноўку там работы. Вытворчыя рабачкомы—саўгасаў, леспрамгасаў мэтазгодна прымацаваць (у парадку шэфства) да невытворчых прафячэяк—сельрабачкомаў, прафкомаў, рабачкомаў адзіночак, для ажыцьцяўленьня пралетарскага ўплыву і наладжваньня там работы.

13) Выбары райкомаў павінны быць скончаны па Менскай, Віцебскай і Аршанскай акругах не пазьней 5-га верасня, а па астатніх акругах—не пазьней 15-га Верасня. Як правіла, выбары ўсіх райкомаў павінны быць праведзены да пачатку міжраёных зьездаў прафсаюзаў і арганізацыі Райпрафбюро.

14) Прэзыдыум БРК папярэджвае ўсе саюзныя арганізацыі ад якой бы то ні было пасьпешкі ва ўсёй падрыхтоўчай і выбарнай працы райкомаў. Перавыбары райкомаў павінны быць праведзены па баявому з шырокай мабілізацыяй увагі і актыўнасьці да гэтага пытаньня ўсіх членаў саюзу. Да падрыхтоўчай работы прыступіць базадкладна, для чаго практычна правесьці наступныя мерапрыемствы:

а) 22-га жніўня ва ўсіх акруговых цэнтрах сіламі членаў Прэзыдыуму БРК праводзяцца нарады райінструктараў па задачах падрыхтоўчай і выбарчай кампаніі райкомаў. На гэтай-жа нарадзе падрабязна распрацоўваюцца па раённыя пляны і календары выбараў райкомаў.

б) 24-га жніўня райінструктары праводзяць раённыя нарады ўсіх рабачкомаў і мясцкомаў аб задачах выбарчай кампаніі і тут распрацоўваецца канкрэтны плян і календар правядзеньня шырокіх саюзных сходаў, зьвязаных з арганізацыяй райкомаў і выбарамі дэлегатаў на раённую канфэрэнцыю.

в) Не пазьней 25-га жніўня, ў кожным раёне, для правядзеньня ўсей работы, зьвязанай па выбарах райкомаў, павінна быць арганізавана аргбюро з 5-7 чалавек якое складаецца з прадстаўнікоў вялікіх саюзных арганізацый. Старшынёй аргбюро рэкамэндуецца райінструктар (ці іншыя асобы паказаныя РК КП(б)Б), членамі—1-2 рабочых—ударнікі, 1 2 прадстаўнікі нізавых ячэяк, прадстаўнік РК партыі і прадстаўнік камсамолу. На абавязку аргбюро таксама павінна ляжаць складаньне аснаўных прынцыпаў і наброскаў пляну работ (на 3 м-цы), будучаго райкому, гэты плян работ падрабязна абгаварваецца, распрацоўваецца і канчаткова зацьвердждаецца на райканфэрэнцыі. дзе адбываюцца выбары райкому.

г) Модус прадстаўніцтва на раённую канфэрэнцыю ўстанавіць—1 ад 10 членаў саюзу. Выбары дэлегатаў на райканфэрэнцыю праводзяцца на агульных сходах членаў саюзу даннай нізавой прафячэйкі. У тых-жа калгасах, дзе налічваецца менш 10 членаў саюзу—батракоў і ў пунктах дзе знаходзяцца раськіданыя члены саюзу—батракі, пастухі і адзіночкі, выбары дэлегатаў на райканфэрэнцыю, па паказаным модусу, павінны праводзіцца на групавых (агульсельсавецкіх) сходах членаў саюзу.

д) Абвестку райканфэрэнцыі рэкамандаваць наступную:

1) Чарговыя задачы саюзнай работы на аснове рашэньняў XIII зьезду КП(б)Б і XVI зьезду Усе КП(б). Дакладчык ад Райкому партыі.

2) Плян работы райкому саюзу.—Дакладчык райінстрктаў.

3) Выбары райкому, і рэвізійнай камісіі.

е) Колькасны склад райкому павінен абірацца:

Пры наліччы ў раёне да 500 членаў саюзу—7членаў РК і 2 кандыдаты. Ад 500 да 700 членаў - 8 чл. і 3 канд., вышэй 750 чл.—11 чл. і 4 кандыдаты.

15) Усе расходы, зьвязаныя з правядзеньнем раённых канфэрэнцый, пакрываюцца за кошт нізавых ячэяк. Расходы аплачваюцца толькі фактычныя (харчаваньне дэлегатаў, фурманкі, культ-абслугоўваньне і наём цамяшканьняў). Папярэдні каштарыс усіх расходаў складаецца аргбюро, якое вядзе сваю справаздачнасьць і дае разьверстку нізавым ячэйкам (улічваючы іх фінансавую магутнасьць). Пасьля райканфэрэнцыі аргбюро аб усіх праведзеных расходах адлічваецца перад райкомам саюзу.

16) Зарплату для старшынь райкомаў арыентыровачна вызначыць 135 руб. у сярэднім у месяц, для тэхработнікаў 50 руб.. Даручыць Аргсэктару ўстанавіць дыфэрэнцыацыю зарплаты ў залежнасьці ад магутнасьці райкомаў і яго асаблівасьцяў, узяўшы за аснову больш 2 х градацый.

17) Даручыць Аргсэктару БРК у 10-ці дзённы тэрмін распрацаваць і разаслацць мясцом парадак вучоту работ праводзімых вабараў па форме вучоту на новы склад членаў і старшынь райкомаў, а таксама ў месячны тэрмін унесьці на разгляд Прэзыдыуму палажэньне аб райкомах саюзу.

н°

## ЧАСОВАЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ

### Аб вучастковых і цэхавых камітэтах пры агульна-саўгаскіх камітэтах і леспромгасах.

1) Вучастковыя і цэхавыя камітэты абіраюццв на агульных сходах рабочых і служачых данага вучастку і падпарадкоўваюцца непасрэдна кіраўніцтву агульна-саўгаскага камітэту. Тэрмін поўнамоцтва вучастковых і цэхавых камітэтаў гэткі-ж, як і агульна-саўгаскіх камітэтаў.

2) Вучастковы і цэхавы камітэт свае пасяджэньні праводзіць не радзей аднаго разу ў 10 дзён, а агульныя сходы рабочых і служачых данага вучастку, цэху, не радзей аднаго разу ў месяц.

3) У кола абавязкаў вучастковага і цэхавага камітэту ўваходзіць:

а) Абгаварэньне і рашэньне важнейшых вытворча-палітычных і прафэсыйных пытаньняў на пасяджэньні камітэту і агульных схоўах рабочых.

б) Скліканьне вытворчых нарад і нарад прафактыву.

4) Пратаколы пасяджэньняў вучастковага і цэхавага камітэту і агульных сходаў зацьверджаюцца на пасяджэньні агульна-саўгаскага рабачкому.

5 Вучастковыя і цэхавыя камітэты вылучаюць такіх жа арганізатараў, як і агульна-саўгаскі рабочы камітэт:

Арганізатара сацспаборніцтва і ўдарніцтва

Арганізатара працы і быту.

Арганізатара па кадрах.

Арганізатара масавай палітыка-асьветнай работы.

6) Каштарысу самостойна вучастковыя і цэхавыя камітэты не складаюць, а карыстаюцца агульна-саўгаскім каштарысам, адкуль і атрымоўваюць сродкі на арганізацыйныя расходы і культмасавую работу. Па расходваньні ўзятых сум ад агульна-саўгаскага рабачкому, апошнія адлічваюцца штомесячна, прадстаўляючы апраўдальныя грашовыя дакуманты.

7) Пры вучастковых і цэхавых камітэтах, як правіла, арганізуецца РКК, задачай якой зьяўляецца вырашэньне спрэчных пытаньняў паміж рабочым гаспадарнікам данага вучастковага цэху

8) Галоўнай задачай вучастковага і цэхавага камітэту зьяўляецца:

а) Кіраваць сацыялістычным спаборніцтвам, ударніцтвам і быць арганізатарам яго.

б) Мабілізаваць рабочыя масы вакол галоўных гаспадарча-палітычных пытаньняў: на выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, падняцьцё вытворчасьці працы і працдысцыпліны, барацьбы за зьніжэньне сабекошту і г. д.

в) Удзел у абгаварэньні пытаньняў арганізацыі вытворчасьці ў гаспадарцы і ўцягненьне рабочых мас у актыўнае садзейнічаньне палепшаньню пастаноўкі работы на вытворчасьці, у цэху, на вучастку.

г) Кіраваць і дапамагаць у рабоце В Н.

д) Праводзіць культурна-асьветную работу сярод рабочых і іх сямей.

е) Арганізоўваць чырвоныя куткі, наладжваць лекцыі, спэктаклі і чытку літаратурных твораў, распаўсюджваць саюзныя газэты і часопісі, арганізоўваць насьценгазэты і г. д.

ж) Арганізоўваць і праводзіць работу па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці.

з) Падрыхтоўвацр кадры для пасылкі ў школы, рабфакі, ВНУ і інш. навучальныя ўстановы, прафкадры і для выт. кадр.

і) Абарончa-эканамічныя і бытавыя інтарэсы рабочых мас.

У астатнім у рабоце кіравацца справачнікам прафработніка №№ 10, 11, 12, ЦК саюзу.

9) Вучастковы і цэхавы камітэт адлічваецца аб сваёй дзейнасьці перад рабочымі масамі паквартальна і ня менш аднаго разу ў 3 месяцы перад агульнасаўгаскім рабачкомам.

10) Арганізатар сацспаборніцтва і ўдарніцтва аб'ядНае навакол сябе добраахвотніцкі актыў, прыкладна па наступных групах:

а) Прамфінплян, падрыхтоўка і правядзеньне вытворчых нарад, кантроль і праверка выкананьня рашэньняў.

б) Сацспаборніцтва, ўдарніцтва і праверка ходу яго работы.

в) Выкананьне калдагавору з абодвых бакоў.

г) Рацыяналізацыя, вынаходства, барацьба са стратамі ў вытворчасьці мерапрыёмствы ўтачняючыя і спрошчваючыя паасобныя віды работ на вучастку ў цэху.

11) Арганізатар працы і быту аб'ядНае добраахзотніцкі актыў, прыкладна, ў наступныя групы:

а) Група аховы працы і тэхнікі небясьпекі.

б) Сацыяльна-бытавога абслугоўваньня (ясьлі; пляцоўкі і г. д)

в) Каапэраваньня, рабочага забесьпячэньня і грамадзкага харчаваньня.

12) Арганізатар па кадрах аб'ядНае навокал сябе добраахвотніцкі актыў, прыкладна па наступных групах:

а) Падбор і вылучэньне на гаспадарчую, каапэрацыйную, савецкую і прафэсыйную работу.

б) Падрыхтоўка і пасылка ў розныя навучальныя ўстановы, школы і г. д.

в) Арганізацыя розных курсаў па павышэньні кваліфікацыі і перакваліфікацыі ў цэху, на вучастку і г. д.

13) Арганізатар масавай палітыка-асьветнай работы, які аб'ядНае вакол

сябе добраахвотнікаў, прыкладна, па наступных групах;

а) Група ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісаменнасьці, правядзеньне масавых кампаній.

б) Арганізацыя работы культустаноў, чырвонага кутка, хат-чытальняў і інш.

в) Арганізацыя і дапамога добраахвотным грамадзкім арганізацыям (шэфвобчаствы, Мопр, Асоавіяхім і інш.)

г) Разгортваньне і правядзеньне работы сярод моладзі, жанчын і інш.

14) Акрамя арганізатараў вучастковы камітэт выдзьляе зборшчыкаў членскіх ўзносаў.

## ДАГАВОР.

*1-га Ліпеня 1930 г. г. Менск.*

Беларускі Каапэрацыйны Саюз "Белкаапсаюз" у асобе сябра Праўленьня тав. Бурачэўскага П. П. з аднаго боку і Беларускі Рэспубліканскі Камітэт саюзу Сельгаслесрабочых "БЕЛРКА" у асобе сябр. прэзыдыуму тав. Башмачнікава В. У. з другога боку, ў мэтах узмацненьня палітыка-выхаваўчай і культурна-асьветнай работы сярод сельгаслесрабочых і батрацтва і ў парадку дапамогі у працы прафсаюзу с/г рабочых, заключылі гэты дагавор у наступным:

1. Белкаапсаюз прымае на сябе абслугоўваньне кіно-сеткай (перасовачнай-стацыянаркай) і радыефікацыяй нізавую сетку саюзу Сельгаслесрабочых: саўгасы, леспрамгасы, лесанарыхтоўкі, сельрабачкомы і сэзонныя работы (дадатак:- сьпіс пунктаў абслугоўваньня №1).

2 Белкаапсаюз абавязуецца арганізавадь абслугоўваньне праз кінаперасоўкі саўгасаў Беларусі не радзей 2-х разоў у месяц на тэрмін з моманту заключэньня дагавору да 1-га кастрычніка 1930 г. і аднаго разу ў дэкаду на тэрмін з 1-га кастрычніка да 31-га сьнежня 1930 г. Сельрабачкомы на ўвесь тэрмін абслугоўваюцца да 2-х разоў у месяц. На сезонных работах (акрамя саўгасаў), сплава. лесанарыхтоўках, мэліарацыйных реботах, Белкаапсаюз бярэ на сябе абслугоўваньне рабочых на ўвесь час сэзонных работ, не радзей 2-х разоў у месяц (дадатак: сьпіс пунктаў №2).

3. Бэлкаапсаюз бярэ на сябе устаналеньне ў 10-ці найбольш буйных саўгасах БССР кіно стацыянарных апаратаў. Пункты ўстаноўкі вызначаюць БРК саюзу СГЛР і БКС, пры чым БРК абавязуецца забясьпечыць ў мясцох ўстаноўкі кіно-апаратаў адпаведныя памяшканьні з належным абсталяваньнем, (ня лічачы абсталяваньне кіно-будак) і прадугледзіць наяўнасьць электра-станцыі, альбо рухавіка. Ў месцы ўстаноўкі кіноапаратаў—саўгасы павінны быць распаложены каля насяленных пунктаў, пераважна калгасаў.

4. Беларускі Рэспубліканскі Камітэт саюзу СГЛР перадае спажыўсыстэме маючыеся ў наліччы ў саюзе кіно-перасовак у колькасьці 8 штук, з абслугоўваючым пэрсаналам.

БРК СГЛР застаўляе за сабой права пакідываньня ў сваім распараджэньні 4 перасовак для 2-х культбаз і 2-х культперасовак.

5. БРК СГЛР абавязуецца аказваць максімальнае садзейнічаньне Белкаапсаюзу ў разгортваньні вакол працы па кінафікацыі шырокае выхаваўчае работы сярод сельгаслесрабочых і батрацтва. Плян кіно-палітасьветработы узгадняецца паміж абодвума дагаварваючыміся бакамі.

6. БРК СГЛР бярэ на сябе абавязак арганізаваць калектыўнае наведваньне сэансаў з аплатай за ўваход, згодна існуючых расцэнак. Саюзныя арганізацыі СГЛР абавязуюцца пакавваць садзейнічаньне па перавозцы кіно-перасовак.

7. БРК СГЛР абавязуецца прыняць ўдзел у разгортваньні кіно-сеткі праз уключэньне ў бягучым годзе і на першы квартал 1931 г. адпаведных сум у каштарысы гаспадарчых арганізацый, аб"ядноемых па саюанай лініі СГЛР, якія павінны быць перадаваны Белкаапсаюзу не пазьней верасьня месяца на бягучы год і сьнежня за 1-й квартал 1931 г. Белкаапсаюз павінен гэтыя сродкі скарыстоўваць выключна для разьвіцьця кіно-

сеткі ў саўгасах БССР, плян якога узгадняецца з БРК СГЛР.

УВАГА: Разлік сум устанаўляецца асобай згодай паміж Белкаапсаюзам і гаспадарчымі арганізацыямі, аб'яднаемых па саюзнай лініі СГЛР пры ўдзеле БРК саюзу СГЛР.

8. Белкаапсаюз абвязваецца ўстанавіць 85 радые-прыемнікаў з гучна-гаварыцелямі выключна ў саўгасах, сельрабачкомах і сэзонных работах (дадатак: сьпіс пунктаў №3).

9. Белкаапсаюз бярэ на сябе абавязак абсталяваньня трансляцыйных вузлоў у 25 саўгасах да 25 точак кожны (дадатак: сьпіс №4).

10. Уся работа па ўстаноўленьні радые-прыемнікаў праводзіцца за сродкі: 50% за кошт спажтаварыстваў і 50% за кошт гаспадарчых арганізацый, аб'яднаемых па саюзнай лініі СГЛР. Па частцы трансляцыйных вузлоў: цэнтральнае абсталяваньне і лінейнае за кошт Белкаапсаюзу і ўнутранае абсталяваньне за кошт гаспадарчых арганізацый саўгасаў, аб'яднаемых па саюзнай лініі СГЛР, што забясьпечваецца БРК СГЛР. Выдаткі па далейшай эксплётацыі радые-прыемнікаў і вузлоў адносяцца за рахунак арганізацый СГЛР на мясцох устаноўкі.

11. БРК саюзу СГЛР перадае Белкаапсаюзу наяўны штат радые-манцёраў.

12. На ўсіх пунктах, дзе маюцца рамонтна-зарадныя базы спажыўсыстэмы апошнія выконваюць работу па рамонту і зарадцы радые-апуратуры, ўстаноўленай у нізавых ячэйках саюзу СГЛР па сабекаштоўнасьці.

13. Уся кіно і радые апаратура, ўстаноўленая спажкааперацыяй, лічыцца маемасьцю спажывецкіх таварыстваў, але ні ў якім выпадку ня можа быць зьнята, альбо перанесена на іншыя месцы без згоды БРК СГЛР.

14. Усе абавязкі; ўзятыя Белкаапсаюзам, выконваюцца спажывецкай каапэрацыі на мясцох. Тэрмін дагавору і адпаведна гэтаму тэрмін выкананьня ўзятых на сябе бакамі абавязкаў, устанаўліваецца да 31-та сьнежня 1930 г. пасьля якога ён павінен быць перазаключаны на далейшы час. Дагавор уступае у моц пасьля падпісаньня яго абодвума бакамі.

15. БРК саюзу СГЛР абавязуецца шырока папулярызаваць дагавор у газэце "Сельска-Гаспадарчы Рабочы Беларусі" і ў бюлетэні.

Юрыдычныя Адрасы Бакоў: Белкаапсаюзу" г. Менск, Савецкая 48. БРК саюзу СГЛР-г. Менск, Пляц Волі Дом Працы

Белкаапсаюз **Бурачэўскі**

Бел. Рэсп. Камітэт
Саюзу СГЛР **Башмачнікаў**.

**Выдавецтва Бел. Рэс. К-ту Сельгаслесрабочых СССР.**

Адказны рэдактар **Манжалей**.
Намесьнікі яго: **Лашкевіч, Юшкевіч**.

Галоўлітбел № 2610. Тыраж 1000 экз. Друкарня Менспраўдому.

сябе добраахвотнікаў, прыкладна, па наступных групах;

а) Група ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісаменнасьці, правядзеньне масавых кампаній.

б) Арганізацыя работы культустаноў, чырвонага кутка, хат-чытальняў і інш.

в) Арганізацыя і дапамога добраахвотным грамадзкім арганізацыям (шэфвобчаствы, Мопр, Асоавіахім і інш.)

г) Разгортваньне і правядзеньне работы сярод моладзі, жанчын і інш.

14) Акрамя арганізатараў вучастковы камітэт выдзяляе зборшчыкаў членскіх ўзносаў.

## ДАГАВОР.

*1-га Ліпеня 1930 г. г. Менск.*

Беларускі Каапэрацыйны Саюз "Белкаапсаюз" у асобе сябра Праўленьня тав. Бурачеэўскага П. П. з аднаго боку і Беларускі Рэспубліканскі Камітэт саюзу Сельгаслесрабочых "БЕЛРКА" у асобе сябр. прэзыдыуму тав. Башмачнікава В. У. з другога боку, ў мэтах узмацненьня палітыка-выхаваўчай і культурна-асьветнай работы сярод сельгаслесрабочых і батрацтва і ў парадку дапамогі у працы прафсаюзу с/г рабочых, заключылі гэты дагавор у наступным:

1. Белкаапсаюз прымае на сябе абслугоўваньне кіно-сеткай (перасовачнай·стацыянарнай) і радыефікацыяй нізавую сетку саюзу Сельгаслесрабочых: саўгасы, леспрамгасы, лесанарыхтоўкі, сельрабачкомы і сэзонныя работы (дадатак:-сьпіс пунктаў абслугоўваньня №1).

2 Белкаапсаюз абавязуецца арганізавадь абслугоўваньне праз кінаперасоўкі саўгасаў Беларусі не радзей 2-х разоў у месяц на тэрмін з моманту заключэньня дагавору да 1-га кастрычніка 1930 г. і аднаго разу ў дэкаду на тэрмін з 1-га кастрычніка да 31-га сьнежня 1930 г. Сельрабачкомы на ўвесь тэрмін абслугоўваюцца да 2-х разоў у месяц. На сезонных работах (акрамя саўгасаў), сплава. лесанарыхтоўках, мэліарацыйных реботах, Белкаапсаюз бярэ на сябе абслугоўваньне рабочых на ўвесь час сэзонных работ, не радзей 2-х разоў у месяц (дадатак· сьпіс пунктаў №2).

3. Бэлкаапсаюз бярэ на сябе устанавленьне ў 10-ці найбольш буйных саўгасах БССР кіно стацыянарных апаратаў. Пункты ўстаноўкі вызначаюць БРК саюзу СГЛР і БКС, пры чым БРК абавязуецца забясьпечыць ў мясцох ўстаноўкі кіно-апаратаў адпаведныя памяшканьні з належным абсталяваньнем, (ня лічачы абсталяваньне кіно-будак) і прадугледзіць наяўнасьць электра-станцыі, альбо рухавіка. Ў месцы ўстаноўкі кіноапаратаў—саўгасы павінны быць распаложены каля насяленных пунктаў, пераважна калгасаў.

4. Беларускі Рэспубліканскі Камітэт саюзу СГЛР перадае спажыўсыстэме маючыеся ў наліччы ў саюзе кіно-перасовак у колькасьці 8 штук, з абслугоўваючым пэрсаналам.

БРК СГЛР застаўляе за сабой права пакідываньня ў сваім распараджэньні 4 перасовак для 2-х культбаз і 2-х культперасовак.

5. БРК СГЛР абавязуецца аказваць максімальнае садзейнічаньне Белкаапсаюзу ў разгортваньні вакол працы па кінафікацыі шырокае выхаваўчае работы сярод сельгаслесрабочых і батрацтва. Плян кіно-палітасьветработы узгадняецца паміж абодвума дагаварваючыміся бакамі.

6. БРК СГЛР бярэ на сябе абавязак арганізаваць калектыўнае наведваньне сэансаў з аплатай за ўваход, згодна існуючых расцэнак. Саюзныя арганізацыі СГЛР абавязуюцца паказваць садзейнічаньне па перавозцы кіно-перасовак.

7. БРК СГЛР абавязуецца прыняць ўдзел у разгортваньні кіно-сеткі праз уключэньне ў бягучым годзе і на першы квартал 1931 г. адпаведных сум у каштарысы гаспадарчых арганізацый, аб"яднаемых па саюзнай лініі СГЛР, якія павінны быць перааданы Белкаапсаюзу не пазьней верасьня месяца на бягучы год і сьнежня за 1-й квартал 1931 г. Белкаапсаюз павінен гэтыя сродкі скарыстоўваць выключна для разьвіцьця кіно-

сеткі ў саўгасах БССР, плян якога узгадняецца з БРК СГЛР.

УВАГА: Разлік сум устанаўляецца асобай згодай паміж Белкаапсаюзам і гаспадарчымі арганізацыямі, аб'яднаемых па саюзнай лініі СГЛР пры ўдзеле БРК саюзу СГЛР.

8. Белкаапсаюз абвязваецца ўстанавіць 85 радые-прыемнікаў з гучна-гаварыцелямі выключна ў саўгасах, сельрабачкомах і сэзонных работах (дадатак: сьпіс пунктаў №3).

9. Белкаапсаюз бярэ на сябе абавязак абсталяваньня трансляцыйных вузлоў у 25 саўгасах да 25 точак кожны (дадатак: сьпіс №4).

10. Уся работа па ўстаноўленьні радые-прыемнікаў праводзіцца за сродкі: 50% за кошт спажтаварыстваў і 50% за кошт гаспадарчых арганізацый, аб'яднаемых па саюзнай лініі СГЛР. Па частцы трансляцыйных вузлоў: цэнтральнае абсталяваньне і лінейнае за кошт Белкаапсаюзу і ўнутранае абсталяваньне за кошт гаспадарчых арганізацый саўгасаў, аб'яднаемых па саюзнай лініі СГЛР, што забясьпечваецца БРК СГЛР. Выдаткі па далейшай эксплётацыі радые-прыемнікаў і вузлоў адносяцца за рахунак арганізацый СГЛР на мясцох установкі.

11. БРК саюзу СГЛР перадае Белкаапсаюзу наяўны штат радые-манцёраў.

12. На ўсіх пунктах, дзе маюцца рамонтна-зарадныя базы спажыўсыстэмы апошнія выконваюць работу па рамонту і зарадцы радые-апуратуры, ўстаноўленай у нізавых ячэйках саюзу СГЛР па сабекаштоўнасьці.

13. Уся кіно і радые апаратура, ўстаноўленая спажкааперацыяй, лічыцца маемасьцю спажывецкіх таварыстваў, але ні ў якім выпадку ня можа быць зьнята, альбо перанесена на іншыя месцы без згоды БРК СГЛР.

14. Усе абавязкі; ўзятыя Белкаапсаюзам, выконваюцца спажывецкай каапэрацыі на мясцох. Тэрмін дагавору і адпаведна гэтаму тэрмін выкананьня ўзятых на сябе бакамі абавязкаў, устанаўліваецца да 31-та сьнежня 1930 г. пасьля якога ен павінен быць перазаключаны на далейшы час. Дагавор уступае у моц пасьля падпісаньня яго абодвума бакамі.

15. БРК саюзу СГЛР абавязуецца шырока папулярызаваць дагавор у газэце "Сельска-Гаспадарчы Рабочы Беларусі" і ў бюлетэні.

Юрыдычныя Адрасы Бакоў: Белкаапсаюзу" г. Менск, Савецкая 48. БРК саюзу СГЛР-г. Менск, Пляц Волі Дом Працы

Белкаапсаюз **Бурачэўскі**

Бел. Рэсп. Камітэт
Саюзу СГЛР **Башмачнікаў**.

**Выдавецтва Бел. Рэс. К-ту Сельгаслесрабочых СССР.**

Адказны рэдактар **Манжалей**.
Намесьнікі яго: **Лашкевіч**, **Юшкевіч**.

Галоўлітбел № 2610. Тыраж 1000 экз. Друкарня Менсправдому.